## ПЕРШАЕ ПАСЛАННЕ ДА ЦІМАФЕЯ

### 1 (1-20)

1 Павел, апостал Езуса Хрыста паводле загаду Бога, нашага Збаўцы і Надзеі
нашай, Езуса Хрыста, – 2 Цімафею, сапраўднаму дзіцяці ў веры: ласка,
міласэрнасць і спакой ад Бога Айца і Пана нашага Езуса Хрыста.
3 Ідучы ў Македонію, я прасіў цябе застацца ў Эфесе, каб ты забараніў
некаторым навучаць іншаму, 4 а таксама займацца байкамі і бясконцымі
радаводамі, якія выклікаюць больш спрэчак, чым служаць настаўленню Божаму
ў веры. 5 Мэта ж настаўлення – гэта любоў з чыстага сэрца, добрага сумлення і
праўдзівай веры. 6 Некаторыя адвярнуліся ад гэтага і звярнуліся да пустаслоўя,
7 хочучы быць настаўнікамі Закону, хоць не разумеюць, што гавораць і што
сцвярджаюць.
8 Мы ведаем, што Закон добры, калі хто ім разумна карыстаецца, 9 ведаючы,
што Закон дадзены не для справядлівых, але для несправядлівых,
непаслухмяных, бязбожных, грэшнікаў, разбэшчаных і блюзнерцаў,
бацькazaбойцаў, мацізабойцаў і чалавеказабойцаў, 10 распуснікаў,
мужаложнікаў, для гандляроў людзьмі, падманшчыкаў, ілжэсведкаў і для ўсіх
тых, хто пярэчыць здароваму вучэнню, 11 згоднаму з Евангеллем, якое ёсць
хвалой благаслаўлёнага Бога і якое даручана мне.
12 Я дзякую нашаму Пану Езусу Хрысту, які ўмацаваў мяне, таму што Ён
палічыў мяне вартым даверу, паставіўшы сабе на служэнне, 13 хоць я раней быў
блюзнерцам, пераследнікам і крыўдзіцелем. Але я быў памілаваны, таму што
рабіў гэта ў няведанні і бязвер’і. 14 Ласка ж нашага Пана шчодра перапоўніла
мяне разам з вераю і любоўю, якая ў Езусе Хрысце.
15 Годнае веры слова і вартае поўнага прыняцця, што Езус Хрыстус
прыйшоў у свет, каб збавіць грэшнікаў, сярод якіх я першы. 16 Але я памілаваны
для таго, каб ува мне першым Езус Хрыстус паказаў усю доўгацярплівасць як
прыклад тым, хто будзе верыць ў Яго дзеля жыцця вечнага.
17 Валадару вякоў, незнішчальнаму, нябачнаму і адзінаму Богу – пашана і
слава на векі вечныя. Амэн.
18 Гэты наказ даю табе, сыне Цімафею, паводле ранейшых адносна цябе
прароцтваў, каб ты змагаўся згодна з імі як добры змагар, 19 маючы веру і
чыстае сумленне, якое некаторыя адкінулі і згубілі веру. 20 Сярод іх Гіменэй і
Аляксандар, якіх я аддаў сатане, каб адвучыліся блюзнерыць.

### 2 (1-15)

1 Перш за ўсё, я заклікаю, каб прашэнні, малітвы, просьбы аб заступніцтве і
падзякі ўзносіліся за ўсіх людзей: 2 за каралёў і за ўсіх, хто мае ўладу, каб мы
маглі весці спакойнае і ціхае жыццё ва ўсёй пабожнасці і годнасці. 3 Гэта добра і
прыемна ў вачах Збаўцы нашага, Бога, 4 які хоча, каб усе людзі былі збаўлены і
дайшлі да пазнання праўды. 5 Бо адзін Бог і адзін пасрэднік паміж Богам і
людзьмі – Чалавек Езус Хрыстус, 6 які аддаў сябе самога на водкуп за ўсіх як
сведчанне, дадзенае ў адпаведную пару, 7 дзеля чаго я прызначаны

прапаведнікам і апосталам. Кажу праўду і не хлушу. Я настаўнік язычнікаў у
веры і праўдзе.
[8]Таму жадаю, каб мужчыны маліліся на кожным месцы, узносячы чыстыя
рукі без гневу і спрэчак. [9]Падобна і жанчыны няхай апранаюцца з належнай
стрыманасцю, сціпла і прыстойна, аздабляючы сябе не пляценнем валасоў ці
золатам або пэрламі ці каштоўнымі строямі, [10]але, як належыць жанчынам,
лепш пабожнасцю і добрымі ўчынкамі.
[11]Жанчына няхай вучыцца ў ціхасці і ў поўнай паслухмянасці. [12]А жанчыне
не дазваляю навучаць і панаваць над мужам, але няхай застаецца ў ціхасці. [13]Бо
першым быў створаны Адам, а потым Ева. [14]І не Адам быў зведзены, але
жанчына была зведзеная і зграшыла. [15]Яна будзе збаўлена праз нараджэнне
дзяцей, калі яны будуць трываць у веры, любові і святасці з развагаю.

## 3 (1-16)

[1]Гэта слова годнае веры: калі хто жадае біскупства, ён жадае добрай
справы. [2]Таму біскуп павінен быць бездакорным, мужам адной жонкі,
цвярозым, разважлівым, прыстойным, гасцінным, здольным навучаць, [3]не
схільным да п’янства, не сварлівым, але спагадлівым, міралюбным і не
прагным да грошай. [4]Ён павінен добра кіраваць уласным домам і трымаць
дзяцей у паслухмянасці з усёй пашанаю. [5]Бо, калі хто не ўмее кіраваць уласным
домам, як жа зможа клапаціцца аб Касцёле Божым? [6]Ён не павінен быць
неафітам, каб не заганарыўся і не патрапіў пад д’ябальскае асуджэнне. [7]Ён
павінен таксама мець добрае сведчанне ад тых, хто звонку, каб не патрапіць у
пагарду і пастку д’ябла.
[8]Таксама і дыяканы павінны быць годнымі, некрывадушнымі, не павінны
злоўжываць віном і быць карыслівымі. [9]Павінны захоўваць таямніцу веры ў
чыстым сумленні. [10]І такіх трэба спачатку выпрабоўваць, а потым няхай
служаць, калі акажуцца бездакорнымі. [11]Жанчыны таксама няхай будуць
годнымі, не пляткаркамі, цвярозымі, вернымі ва ўсім. [12]Няхай дыякан будзе
мужам адной жонкі, няхай добра кіруе дзецьмі і ўласным домам. [13]Бо тыя, хто
добра служыў дыяканам, здабываюць сабе годнае становішча і вялікую адвагу ў
веры ў Езусе Хрысце.
[14]Пішу табе гэта, маючы надзею неўзабаве прыбыць да цябе. [15]Калі буду
спазняцца, то ведай, як трэба паводзіць сябе ў доме Божым, які з’яўляецца
Касцёлам жывога Бога, стаўпом і апірышчам праўды. [16]І мы згодна прызнаём,
што гэта вялікая таямніца пабожнасці:

Той, хто з’явіўся ў целе,
быў апраўданы ў Духу,
з’явіўся анёлам,
быў абвешчаны язычнікам,
знайшоў веру ў свеце
і быў узнесены ў славе.

## 4 (1-16)

[1]Дух выразна кажа, што напрыканцы часоў некаторыя адступяцца ад веры і
звернуцца да духаў, якія зводзяць, і да навук дэманаў [2]праз крывадушных
падманшчыкаў, якія заплямілі сваё сумленне. [3]Яны забараняюць жаніцца,
спажываць стравы, якія Бог стварыў дзеля спажывання з удзячнасцю для
веруючых і тых, якія пазналі праўду. [4]Бо ўсё, што стварыў Бог, добрае, і нельга
адкідаць нічога, што з удзячнасцю прымаецца. [5]Яно асвячаецца праз слова
Божае і малітву.
[6]Калі гэта растлумачыш братам, станеш добрым слугою Езуса Хрыста, які
жывіцца словамі веры і добрай навукі, якой ты заўсёды трымаўся. [7]Асцерагайся
бязбожных і недарэчных баек.
Сябе ж выхоўвай у пабожнасці, [8]бо фізічнае выхаванне мала ў чым
карыснае, а пабожнасць да ўсяго прыдатная, мае ў сабе абяцанне жыцця
цяперашняга і будучага. [9]Праўдзівае гэта слова і вартае ўсялякай увагі. [10]Бо
дзеля гэтага мы працуем і змагаемся, таму што спадзяемся на Бога жывога,
Збаўцу ўсіх людзей, асабліва веруючых. [11]Загадвай гэта і гэтаму навучай.
[12]Няхай ніхто не пагарджае тваёй маладосцю, але стань для верных узорам
у слове, паводзінах, любові, веры і беззаганнасці. [13]Пакуль прыйду, займіся
распазнаннем, заахвочваннем і навучаннем. [14]Не занядбоўвай дар, які ёсць у
табе і які быў дадзены табе праз на падставе прароцтва і праз ускладанне рук
старэйшых. [15]Аб гэтым клапаціся, у гэтым трывай, каб твой поступ быў
відавочны для ўсіх. [16]Зважай на сябе і на навучанне. Заставайся ў гэтым.
Робячы так, і самога сябе збавіш, і тых, хто слухае цябе.

## 5 (1-25)

[1]Старэйшага не дакарай, але ўпрошвай, як бацьку; маладых – як братоў;
[2]старэйшых жанчын – як маці, а маладых – як сясцёр, з усёй беззаганнасцю.
[3]Удоваў шануй, калі яны сапраўды ўдовы. [4]Калі ж якая ўдава мае дзяцей або
ўнукаў, то няхай яны перш вучацца шанаваць сваю сям’ю ды быць удзячнымі
бацькам, бо гэта падабаецца Богу. [5]Сапраўдная ўдава і адзінокая спадзяецца на
Бога і ўзносіць да Яго просьбы і малітвы днём і ноччу. [6]Тая ж, што шукае
асалоды, мёртвая пры жыцці. [7]Таму так настаўляй іх, каб яны былі
беззаганнымі. [8]Калі ж хто не апякуецца сваімі, асабліва хатнімі, той адкінуў
веру і горшы за няверучага.
[9]Удавой павінна лічыцца тая, якой не менш шасьцідзесяці гадоў, якая мела
аднаго толькі мужа. [10]Яна павінна славіцца добрымі ўчынкамі, гэта значыць
добрым выхаваннем дзяцей, гасціннасцю і тым, што абмывала ногі святым,
дапамагала гаротным і рупілася пра добрыя справы. [11]А маладых удоваў
абмінай, бо яны, кіруючыся пажадлівасцю [пагарджаюць] Хрыстом дык
імкнуцца выйсці замуж. [12]Яны годныя асуджэння, бо страцілі першасную
вернасць. [13]Ходзячы па хатах, яны таксама вучацца гультайству. Яны не толькі
гультайкі, але пляткаркі і цікаўныя, гавораць тое, што не трэба. [14]Таму лічу,
што лепш, каб маладыя [ўдовы] выходзілі замуж, нараджалі дзяцей, кіравалі

домам і не давалі ворагу ніякіх падстаў да знеслаўлення. [15]На жаль, ужо
некаторыя пайшлі за сатаной.
[16]Калі ж якая верніца мае ўдоваў, дык няхай апякуецца імі і не абцяжарвае
Касцёла, каб ён мог дапамагаць сапраўдным удовам.
[17]Прэзбітэраў, якія добра кіруюць, акружайце падвойнай пашанай, асабліва
тых, хто цяжка працуе, прапаведуючы і навучаючы. [18]Бо Пісанне кажа: «*Не
завязвай пысы валу, які малоціць*» і «*Працаўнік варты платы сваёй*». [19]Не
прымай абвінавачанняў супраць прэзбітэра, хіба што *з-за двух ці трох сведкаў*.
[20]А тых, хто грашыць, дакарай перад усімі, каб і іншыя мелі страх. [21]Заклінаю
цябе перад Богам і Хрыстом Езусам, і выбранымі анёламі, каб ты захоўваў гэта
без прыліку і не рабіў нічога прадузята. [22]Не ўскладай паспешліва рук ні на
кога, і не ўдзельнічай у грахах іншых, а сябе самога захоўвай беззаганным.
[23]Адгэтуль не пі вады, але патроху ўжывай віна з увагі на страўнік і твае
частыя немачы.
[24]Грахі некаторых людзей відавочныя яшчэ да суда, а за некаторымі ідуць
следам. [25]Падобна і добрыя ўчынкі відавочныя, а калі не, то ўсё роўна схавацца
не змогуць.

## 6 (1-21)

[1]Нявольнікі, якія пад ярмом, няхай лічаць сваіх гаспадароў годнымі ўсякай
павагі, каб не зневажалася імя Божае і навука. [2]Тыя, хто мае веруючых
гаспадароў, няхай не пагарджаюць імі, што яны браты, але няхай больш
служаць ім, бо яны веруючыя і ўмілаваныя, і здзяйсняюць добрую справу.
Гэтаму навучай і да гэтага заклікай.
[3]Калі хто навучае інакш і не трымаецца здаровых словаў Пана нашага
Езуса Хрыста, а таксама згоднага з пабожнасцю вучэння, [4]той заганарыўся,
нічога не ведае, але мае хваравітую схільнасць да пытанняў і слоўных спрэчак.
З гэтага ўзнікаюць зайздрасць, гнеў, блюзнерствы, зласлівыя падазрэнні,
[5]няспынныя спрэчкі пазбаўленых праўды людзей з сапсаваным мысленнем, якія
лічаць, што пабожнасць – гэта прыбытак.
[6]Сапраўды, пабожнасць разам з задавальненнем – гэта вялікая карысць. [7]Бо
мы нічога не прыносім у свет і не можам нічога вынесці. [8]Але, маючы
спажытак і чым прыкрыцца, будзем жа задаволеныя гэтым. [9]А тыя, хто хоча
ўзбагаціцца, трапляюць у спакусу і пастку, у шматлікія неразумныя і шкодныя
пажадлівасці, якія патапляюць людзей у згубе і пагібелі. [10]Бо корань ўсялякага
зла – гэта любоў да грошай, у пагоні за якімі некаторыя адступіліся ад веры і
аддалі сябе шматлікім пакутам.
[11]Ты, о чалавек Божы, пазбягай гэтага, імкніся да справядлівасці,
пабожнасці, веры, любові, цярплівасці і лагоднасці. [12]Змагайся добрым
змаганнем веры, трымайся вечнага жыцця, да якога ты пакліканы і пра якое ты
даў добрае вызнанне перад многімі сведкамі.
[13]Перад Богам, які дае жыццё ўсяму, і перад Езусам Хрыстом, які даў перад
Понціем Пілатам добрае сведчанне, [14]наказваю табе захоўваць запаведзь чыстай
і беззаганнай аж да аб’яўлення Пана нашага Езуса Хрыста, [15]якое ў свой час

пакажа шчаслівы і адзіны моцны, Кароль над каралямі і Пан над панамі, [16]адзіны несмяротны, які жыве ў недаступным святле, якога ніхто з людзей не бачыў і бачыць не можа. Яму пашана і вечная моц. Амэн.

[17]Багатым гэтага веку загадвай, каб завысока пра сябе не думалі і не спадзяваліся на няпэўнае багацце, але на Бога, які шчодра дае нам усё для карыстання. [18]Няхай робяць дабро, багацеюць добрымі ўчынкамі, будуць шчодрымі, дзяляцца з іншымі. [19]Так, збіраючы сабе добры скарб на будучае, забяспечаць сабе сапраўднае жыццё.

[20]О, Цімафей, беражы гэты дэпазіт [веры], пазбягай бязбожнага пустаслоўя, а таксама супярэчнасцяў фальшывага пазнання, [21]ідучы за якім, некаторыя адышлі ад веры.

Ласка з вамі.

---

© Канферэнцыя Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі